

КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Ірына Хадарэнка

# Свядомаграфія

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2012

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)-5
Х14

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 24.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Мастак
З. Траяновіч

**Хадарэнка, І.**
Х14 Свядомаграфія : вершы / Ірына Хадарэнка. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 88 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 24).
ISBN 978-985-7007-55-4.

Творчасць паэткі І. Хадарэнка, якая відавочна належыць да інтэлектуальнай плыні ў беларускай літаратуры, уражвае пранізлівым адчуваннем рэчаіснасці і самабытнай метафарычнасцю, трывогай за лёс свайго народа і неспатольнай прагай да свабоды.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4 Беи)-5**

**ISBN 978-985-7007-55-4**



* * *

Мае абсідыянавыя сны
Злучаюць час цяперашні з мінулым.
А будучыні зерне патанула
У мгле пад стосам ісцін прапісных.

Зноў поўня асвятляе зікурат
З цаглінак рэчаіснасці настылай.
І чыйсьці голас ціха шэпча з тылу,
Што час здзяйсняць замоўлены абрад.

* * *

Адпачывай, пакуль смяецца поўня.
На востраве вастрацца кіпцюры...
Паветра расквітнее на жароўні,
Калі натоляць прагу ўладары.

Васьмёра карлікаў валтузяць футравіну,
Лязом кранаючы патончаны прасцяг.
Самота тоесная вузкай дамавіне
Ад імавернасці да вечнасці наўсцяж.

Адпачывай — віжуе паляўнічы,
Высмоктваючы адпаведны час.
А тыя, што пануюць таямніча,
Ужо даўно стварылі твой абраз.



## Трыялет

Глыбока пад небам, далёка за снамі
Блукаюць наўзбоч беспрытульныя цені...
Схавана трывога ў самотным трымценні
Глыбока пад небам, далёка за снамі.
І мроіцца ўпотай, што цені — мы самі,
І гэта пра нас навакол шамаценне:
Глыбока пад небам, далёка за снамі
Блукаюць наўзбоч беспрытульныя цені...

## Багністы блюз

Ці дзень, ці ноч — усё адно.
Гарбата, з цукрам журавіны...
Халодным подыхам радзімы
Павеяў студзень праз акно.
Сусвет гуляе ў даміно,
І вечнасць мірсціцца магчымай,
Бо феі часу штохвілінна
Чаруюць над верацяном.

У тонкай прастрані адхлання
Мільгаюць промні развітання.

Зырчэе вабны калідор
Тэлепартацыі пачуццяў.
Ён кліча ў невараць, да зор,
Сысці і болей не вярнуцца.



## Наша эра

Свет больш нічога не значыць,
Толькі магчымасць тлумачыць
Гульні малекул.

Смерць больш не значыць нічога,
Толькі падсмейванне Бога
З чалавека.

* * *

Краіна туманаў! Твае краявіды
Кранаюць мне сэрца шчымлівай тугой.
Ты трапіла ў нерат няўмольнай планіды,
Што ў бездань нябыту вядзе за сабой.

Твой крыж — памяркоўнасць. Ты надта рахмана
Суседзям раздорвала скарбы свае.
Іззяе ў душы незагойная рана:
Чаму ж сілы волі табе не стае?..



* * *

Я памятаю чарадзейны край,
Дзе вольны птах і дзікі кот нарвежскі
Дапамагалі мне адшукваць сцежкі
З людской гамэрні ў непазбыўны рай.

Любіла ў лесе я шпацыраваць,
Каб зліцца ў адно цэлае з прыродай,
Бо толькі ў ёй — сапраўдная свабода,
І толькі ў ёй душой магу лунаць.

Праз хмызнякі і састарэлы мох,
Далей у цемру, у гушчар, у неруш;
Там месціцца адзіны, каму верыш, —
Сусветны дэміург, паганскі бог.

Ён патлумачыў мне, адкуль мой род:
З-пад брам хваін, ад шамацення зёлак,
З азёрных нетраў, ад бліскучых зорак,
З абшару, дзе ўладарыў Рагвалод.

Тады, на момант затрымаўшы ўздых,
Я знітавала ў сваім сэрцы безліч:
Красу і моц зямлі, прасторы веліч
І таямніцы валуноў сівых.

Цяпер мне млосна, розум у журбе.
І вабяць зноў далёкія мясціны.
Што ж сталася? Чаму ў сваёй Айчыне
Чужой я мушу адчуваць сябе?..

* * *

Час, застылы, як воск,
боль, заціснуты ўнутр,
і бяздарнай арды зіхаціць перламутр.

Закрухмалены мозг,
паўсядзённы адчай,
замест мантры пытанне адно: «Дзе мой край?..»



## Ecce homo

Вось — просты чалавек, кавалак біямасы
І будучы жыхар драўлянае труны.
Ці здольны ён спазнаць, застаўшыся сам-насам,
Як брыдка існаваць за кратамі маны?
Ці можа ён адчуць у гонцы мітуслівай,
Што гэта зноў з яго смяецца небасхіл?

Гадуйся, чалавек! Ты ў невуцтве шчаслівы;
Учора — эмбрыён, а заўтра — толькі пыл.

## Паштоўкі з Беларусі

I

Сябры, прывітанне з балотнага краю на ўскрайку
Еўропы,
Дзе столькі дзівосаў, што часам міжволі збіваюся
з тропу.
Тут прага да волі трымціць, быццам кропля вады
ў павуцінні,
А памяць застыла таемнай казюркай у цёмным
бурштыне.
Замест сувеніраў я вам дасылаю пялёсткі
надзеі —
Адзінага скарбу, які ў нас не могуць забраць
ліхадзеі.

II

Далёка адсюль да экватара,
Але вельмі блізка — да сэрца;
Знаходжуся быццам у кратары
Вулкана, які не прачнецца.

Смалісты настрой расплываецца
Пад промнямі млявага сонца.
Тут край дэжавю, што здараецца
З табою і мною бясконца...



## Біяграма

Маё грамадзянства — Вялікае Княства,
Мой родны абшар — ад Варшавы да Мінска.
Між Вільняй і Кіевам — продкаў калыска;
Мой род паяднаў і сялянства, і панства.

У спадчыну маю — з крыніцы славянства —
Зямлю, лес і хмары, што сцелюцца нізка,
Свавольнасць і ўпарты характар літвінскі:
У думках — свабода, у сэрцы — паганства.

* * *

Не расквітнела папараці кветка —
І змізарнеў тутэйшы чалавек.
Гуляюць кумяльганы па палетках,
Ератнікі ўчыняюць гвалт і здзек.

А з твані лезуць злыдні, ваўкалакі,
Імкнуцца панаваць, смяюцца ў твар.
Гані іх прэч, хай спрахнуць небаракі!
Зямля ж — ТВАЯ, і ТЫ тут гаспадар!



* * *

Краіна, вартая любові,
Дзяржава, вартая вайны...
Чаму згадзіліся, панове,
Надзець пакоры кайданы?

Сваіх багоў нашто зракліся,
А трон чужынцам аддалі?
Цяпер нясе, нібыта лісце,
Нас вецер часу ўздоўж раллі.

Ралля спустошана бясплоддзем,
Традыцый сохнуць карані.
Чаму не можаш, мой народзе,
Сябе ад здзеку бараніць?

Узровень годнасці скаціны
Вышэй людскога ў сто разоў,
Калі халуйства павуцінне
Звісае нават з абразоў.

Амаль пазбаўленая мовы,
З душой, здранцвелай ад маны,
Краіна — вартая любові,
Дзяржава — вартая вайны.

* * *

Не бачна слоў, абрысаў не чуваць,
Ды слотай набрыняе наваколле.
Тут быў разлог, квітнела сенажаць,
Цяпер — пачвары танчаць на вуголлі.

Рапухі разяваюць зяпы зноў,
А ў немаўлят — кляймо на сцятым роце.
У прыцемку ад стоеных муроў
Вусаты чорт стварыў свой цырк на дроце.

Згубілася ў балоце лёсу ніць,
У нетрах сталі варушыцца змеі.
І толькі лес абурана рыпіць;
Але дрыгва... яна — шчэ больш дрыгвее.



* * *

Звярыныя вочы з-за кратаў за мной назіраюць;
Жалезная сетка паўстала між намі мяжой...
А вочы ўсё сочаць, маўкліва мяне дакараюць;
І я незваротнасць быцця адчуваю душой.

Лаўлю гэты позірк, і думкі пульсуюць у скронях,
Што людзі палююць на глупства, марнуюць
свой час.
І свет наш — звярынец, мы самі жывём у палоне,
Таму нават злоўлены звер — больш свабодны
за нас.

* * *

Загадкавыя, дзіўныя істоты
Жывуць ад Паазер'я да Палесся:
Жытло іх — норы, звыклы стан — маркота;
Яны — як тролі ў еўрапейскім лесе.

Халодна ў норах, цяжка дыхаць звонку,
Крывыя люстры замяняюць неба.
Стварэнні ж церпяць і падчас гамонкі
Сябе пытаюць: «Можа, так і трэба?..»



* * *

Мая нацыя ў стане стагнацыі.
Мая мова жыве ў сутарэннях.
Не, ніколі не можа мець рацыі
Большасць прагнучых самазнішчэння,

Большасць тых, хто з усім пагаджаецца,
Большасць тых, хто натоўпы стварае,
Большасць тых, хто і ноччу, і раніцай
Марыць прыпаркавацца да раю.

Тая большасць завецца тутэйшымі,
Памяркоўнасць ім служыць пасагам;
Зручна пасвіцца ім па-ранейшаму
Пад агульнае млявасці сцягам.

## Адмова

Ён больш не фараон, ён — манекен,
Даступны ўсім і кожнаму міжволі.
Хацела б я аддаць жыццё ўзамен
Бяссмерця гэткага? Ды не, ніколі.

Ты больш не чалавек, ты — уладар,
Які паўстаў аднойчы з гразі ў князі.
Вісіць паўсюдна твой нахабны твар...
Служыць такім, як ты? Ні ў якім разе.



* * *

Халоднае лязо вайны
На кухні часу...
Радзімы лепшыя сыны
Ідуць на мяса.
Нязгасна палымнее кроў
На ратнай ніве,
Бо апетыт уладароў
Звычайна хцівы.

У варыве людскіх пакут —
Лёс Беларусі.
Ты зноў заложнік, родны кут,
Чужых хаўрусаў.
Закрылі сонца крумкачы —
Нібы часова, —
І гучна адусюль гучыць
Чужая мова.

Гісторыі гаркавы дым
Нам засціць вочы.
Хіба мы марылі аб тым,
Каб гніць на ўзбоччы?
Хіба жадалі мы таго,
Каб страціць годнасць?
І каб адказам быў агонь
Нам за лагоднасць?

Нас абцяжарыла вайна
Сваім аброкам.
І мы жывём, нібы яна
Заўжды пад бокам.

У пекла паляціць «герой»,
Што смерці служыць.
Але пракляты двойчы той,
Хто гвалціць душы...



## Горад-220

Лишь тот, кто мыслит, — тот народ,
все остальные — населенье.

*Я. Еўтушэнка*

Замшэла-шэрыя дамы
Глядзяць вачніцамі пустымі...
Сярод бяскрылых і нямых
Студнее розум, сэрца стыне.

Тут лепш маўчаць, чым гаварыць.
Тут не жывуць, а выжываюць.
Замест герояў — махляры,
Замест асоб — сляпая зграя.

Так дзень за днём, за годам год
Блукаю я ў драпежным змроку.
Куды падзеўся мой народ?
Адно насельніцтва навокал...

* * *

Адна трацiна беларусаў
Аб дабрабыце моцна дбае,
За модай сочыць, голiць вусы,
За светам млява назiрае.

Адна трацiна беларусаў
Нiколi ўладароў не лае
I абсалютна без прымусу
Iдзе служыць у палiцаi.

Не бог, не чорт i не героi,
А раўнадушная трацiна —
Маўклiва, без якойсьцi зброi —
Тут вызначае лёс краiны...



* * *

Сядзiм у прыцемку, чакаем давiдна
I пазiраем, як варона ў комiн...
Цi ж праўда тое, што мы нацыя адна,
Або ўсё гэта толькi марны гоман?

Куды схаваўся той магутны дух,
Якi перамагаў у жорсткiх сечах?
Навокал — толькi рэха аплявух,
Хлусня i зайздрасць, смутак i галеча...

## Парада

Паслухмяныя парламентарыі —
Быццам нішы ў пустым калумбарыі.
Як дарма сузіраць
Іх абрыдлую раць —
Лепей з'есці сырок з ламінарыяй.



## Роспач

У краі тым выццё шакалаў
Грамчэй за спевы салаўёў;
Для блазнаў — процьма карнавалаў,
І дываны — для халуёў.

Як лёгка большасць абяззброіць
За пляшку пойла і батон!..
Жахліва: нацыя герояў
Ператвараецца ў планктон.

## Два буслы

Як прыгожа было!.. На вясковым двары
Дзве цудоўныя птушкі гняздзіліся ўлетку.
А цяпер аздабляюць яны этыкетку
На бутэльцы з гарэлкай, што п’юць жыхары.



## Свядомаграфія

Мы існуём, нібыта карпы ў рыбнай краме,
Пакуль не ўзнятыя смяротнымі сачкамі.
А што да Бога — ён таксама пакараны
І боўтаецца ў пастцы разам з намі.

Замураваныя ва ўласнай несвабодзе,
Зачараваныя сляпой надзеі плямай,
Нямыя рты хацелі б крыкнуць: «Годзе!»,
Ды хто пачуе той дарэмны лямант?..

* * *

Я размаўляла з ветрам і дажджом
І слухала нябесных цел парады,
Ды рэзала душу, нібы нажом,
Сляпое прадчуванне блізкай здрады.

Цана святых дагматаў — медны грош,
Бо ў думках мы кагосьці забіваем
Амаль штодня. І спадзяёмся ўсё ж
Знайсці ратунак — там, за небакраем.



## Дробныя ашуканцы

Жанчыны старанна хаваюць узрост,
Мужчыны — да іншых кабет заляцанні,
Калгаснік — у сіласнай яме кампост,
Палітык — падман у сваіх абяцаннях.
Суседка хавае няветлівы твар,
Дзіцёнак — цукерку глыбока ў кішэні,
Гандляр — сапсаваны заўчора тавар,
Святоша — дагматаў царквы парушэнні.

Гляджу і дзіўлюся я з гэтых людзей:
Ніхто не жадае прызнаць, што ён — лузер,
Бо з дробнай лускі мітуслівых надзей
Тут кожны будуе мадэль «all inclusive».
Кухонны змагар ці прайдоха-цыган,
Усе вы прайгралі са старту, паверце, —
Ніколі не можа паддацца на зман
Драпежная птушка няўмольнае смерці.

## Нетактоўны настрой

Не адкрываць наўсцяж фіранку —
Падглядаў годзе.
На дзверы паказаць каханку —
Няхай сыходзіць.
Не выпраўляць чужых памылак —
Не хопіць часу.
Не чэзнуць ад крывых ухмылак
І быць сам-насам.
Не падстаўляць шчаку другую —
Хай дурні церпяць.
Не верыць хлусам, што «ратуюць»
Душу ад смерці.
Ад кампліментаў устрымацца
У бок вяльможаў.
Не шкадаваць і не баяцца —
І пераможаш.



## Зачараванае кола

Краіна маці-адзіночак
І нехлямяжых мужыкоў.
Адсюль хацела б збегчы ў прочкі
Да маляўнічых астравоў.

Ды як пазбегнуць думак-катаў?
Як уцячы ад стромкіх сноў?
Няспынны вір — прыезд дахаты
І... з'ехаць хочацца наноў.

## Новая ідэалогія

Начорта нам тыя парыжы?
Навошта капуста з Брусэля?
Усе мусім стаць мы на лыжы
І бырла хлябаць на вяселлях.
Нам пофіг, што людзі ў нядолі
І гінуць зубры ў Белавежы.
Хто смее тут трызніць аб волі?
Хіба што агенты замежжа.
Не хочам ні з кім ваяваці,
Хоць ворагаў маем задужа.
Патрэбны парадак у хаце!
Таму — не высоўвайся, дружа...



## Маналог абывацеля

Якая розніца, якое заўтра свята,
І хто яго прыдумаў, і калі?..
Галоўнае — каб атрымаць зарплату,
Каб раз у тыдзень выспацца далі.

Якая розніца, якім народам звацца
І для каго служыць, як батракі,
Калі растуць лядовыя палацы,
Свінарнікі і аграгарадкі?

Якая розніца, хто правіць баль ва ўладзе,
Сляды злачынстваў тоячы ў імгле?
Жывём мы тут зусім няблага, браце,
Бо чарка ёсць і шкварка на стале.

Якая розніца, хто кінуты за краты?
Бач, вышукаўся нейкі грамацей!
Каб толькі не чапалі маю хату,
Не турбавалі родных і дзяцей...

Наперад Бацькі з лыжкай нельга лезці,
А лепш схавацца ў бульбу да пары.
Дай, Божа, моцы перажыць нашэсце,
Астатняе ўсё — гарам хай гарыць!

## Пустмадэрнізм

Сучасныя аўтары надта ўжо любяць верлібры,
Карціць ім пісаць пра бамжоў, маргіналаў і сэкс.
Іх творы — гумовыя кулі смяротных калібраў —
Лятуць, каб забіць «трох зайцоў»: вобраз, рыфму
і сэнс.

Яны — як слупы каля пыльнай вясковай дарогі,
І кожны ўпрыгожаны шыльдай са словам «паэт».
Яны вар'яцеюць патроху ад творчай знямогі
І лічаць злачынцам таго, хто стварае санэт.

А гэтыя дзіўныя кралі — паненкі-паэткі!..
Здаецца, што збеглі з музея васковых фігур.
Ім джынсы з банданай мілей за сукенкі-сурвэткі.
Іх вабіць бамонд, а натхняе хіба што гламур.

Ах, гэтая слава! Ты — пастка для кволых
казурак,
Што крыльцамі эгацэнтрызму махаюць знарок
У спробах нягеглых раз'ятрыць мастацтва
падмурак...
Шкада іх: шукаюць святла, а трапляюць у змрок.



* * *

Ідэя — гэта нечаканы скарб,
Насуперак пракляццю закрануты.
Акрылены табой, ляцеў Ікар,
А Праметэй быў да гары прыкуты.

Ідэі ўсё жыццё служыў Платон,
Гіпатыя загінула ў адчаі...
Ідэя застывае, як бетон,
І можа, як вясновы снег, растаяць.

## Паэзія

Кон спляці карэннямі ў зямлі,
А ўяўлення смаглыя азёры
Смуткам і крывёю наталі,
Каб на космас пазіраць праз зоры!
Намалюй і раствары нашчэнт
Гарызонты неадольных думак!..

Горкі твой напой, нібы абсэнт;
Толькі ён — найлепшы падарунак.



## Музыка

Можа быць марай,
можа быць мрояй,
стаць абярэгам
ці нават зброяй,
моцнай атрутай,
сілай гаючай,
шляхам у пекла
ці ў неўміручасць...

## Кароткі крос-культурны аналіз эмацыянальнай парадыгмы

Каханне як міфалагема
Звычайна лашчыць розум еўрапейца.
Яно сваім святлом праменным
У цемрадзі быцця дае сагрэцца.

Каханне як цявіна лёсу
Павінна жыць у сэрцы азіята.
І на шляху душы ў нябёсы
Вібрыруе яно струной напятай.



## Кошка

Мая найлепшая сяброўка
З вачыма колеру бурштыну!..
Твая прынада — мыш-палёўка,
І цёплы кут — твая Айчына.

Ты маеш трапяткое сэрца
І на свой лёс не наракаеш.
Зачаравана праз акенца
За тлумным светам назіраеш.

Вунь птушкі гойсаюць па дрэвах,
І дзве кабеты точаць лясы;
Аўтамабілі — справа, злева —
Бясконца сноўдаюць па трасе.

А ты сядзіш, нібыта Буда,
Накіраваўшы вусы ў вечнасць,
І падаешся мне больш мудрай
За цэлы статак чалавечы.

* * *

Сядзіць ля дарогі бяздомны сабака...
Старым стаў — і выгнаў яго гаспадар.
Худы і аблезлы, дварняк-небарака,
З надзеяй глядзіць ён прахожым у твар.

А людзі... Што людзі? Таксама жывёлы.
Навошта ім розум? Дарэмная рэч.
Яны не багі і зусім не анёлы:
Зірнуць на сабаку і тэпаюць прэч.

Ніхто не палашчыць, ніхто не накорміць,
Ніхто не падорыць прытулак і схоў,
Ніхто не ўратуе; усе толькі гоняць,
Шалеюць і шчэрацца горш за ваўкоў.

Былы гаспадар смажыць шкварку са смакам
І дбае аб выніках «Суперлато»,
А дзесьці ля тыну няшчасны сабака
Канае ад здрады і вые: «ЗА ШТО?..»



* * *

з ценю крывавай нядзелі
выпаўз яе жаніх —
чорны панядзелак
з прыгожым і элегантным букетам

мілыя мірныя людзі
жуючы гамбургеры і гумкі
кожны дзень шпацыруюць
уздоўж скатабойні
маўчаць
і прадбачліва маюць у шафах
гатычныя строі

## Іманентнасць маўчання

Маўчанне золатам бывае не заўжды,
Ягоны водбліск нейкі алхімічны:
Ратуе ад знявагі і бяды
І — аздабляе здраднікам аблічча.

Паэтам часам трэба памаўчаць,
Бо нават птушкі не пяюць бясконца,
Не зелянее ўзімку сенажаць,
Не свеціць і не грэе ноччу сонца.

Калі ж навокал бессаромны гвалт
Ператварае ў быдла беларусаў,
А існаванне іх — турмы накшталт,
Маўчанне — выбар халуёў і трусаў.



## Стоп-кадр

Спавітыя нератам шарай гадзіны
Абсягі свабоды ў гаротнай краіне.
І позірк мой тоне ў ландшафце адзіным:
Навокал руіны, людскія руіны...

## Сябрам

Слота, золь, туманы і вятры...
Шэры бруд імкнецца ўсё запляміць.
І — раптоўнай згадкай — снегіры
Ажыўляюць трапяткую памяць.

У дрыгве народ мой мае схоў;
Тут няма ні згоды, ні адзінства.
Чырванее вобраз снегіроў
На бялюткім тле майго дзяцінства.

Звабіла, сябры, вас далячынь
У замежжы блізкім і далёкім.
А цяпер — абапал крумкачы
Гарлапаняць і мазоляць вока...



* * *

Там свайго народа рэшткі
Бачыў я, што варты жалю,
Як сухое лісце ўвосень,
Бурай гнанае на захад.
*Г. Лангфэла «Спеў аб Гаяваце»*

Стагоддзе цывілізацыйнай адзіноты —
Нязначны юбілей, праскочыць непрыкметна...

Відаць, дзеля таго тут нішчылі шляхетнасць,
Каб корпаўся народ за местачковым дротам.

Дурныя звычкі — адкладаць свой лёс
на «потым»,
Сачыць за руйнаваннем нетраў запаветных...

Даўно ўжо стала філіялам апраметнай
Гнілое, змрочнае, маўклівае балота.

## Загадка волі

Заўсёды марыла аб ёй
І — разам з тым — яе не мела.
Яна не можа быць маёй,
Яна не мае ўзросту, цела.
Яна так дзіўна існуе —
Па-за прасторай, па-за часам.
Адзіны шанс спазнаць яе —
Калі знаходзішся сам-насам.



## Спеў раз'ятранага сэрца

Мацнейшая за лёс,
За смерць і за каханне,
Над акіянам слёз
Аднойчы ты паўстанеш.

Рассеецца імгла,
Калі твой гімн зайграе.
І трэсне панцыр зла
Над занядбаным краем.

І стане раптам свет
Надзвычай каляровым,
А ўладара партрэт
Сатлее там, дзе й дровы.

Ты — невідочны мост
Між статкам і народам,
Ты — стрэл, што б'е наўпрост, —
С В А Б О Д А.

## Тастамент

А што, калі сапраўды існуе
верагоднасць пазажыццёвай пілігрымкі?
тады варта было б загадзя скласці маршрут
футурыстычнай вандроўкі па вясёлкавых рэйках.

Скон — гэта раптоўна разбіты калейдаскоп
быцця,
з якога высыпаюцца рознакаляровыя шкельцы-
згадкі;
але перад тым, як патрапіць у бяздонную лужыну
пустэчы,
яны паспяваюць бліснуць яскравымі
праменьчыкамі,
скіраванымі ў апошняе падарожжа
па родным кантыненце.

Дык вось для іх
творчы брыф:
саскочыць з вежы базілікі ў Базалі;
пашпацыраваць па брукаванцы ў Тарагоне;
крануць пялёсткі лаванды на востраве Хвар;
пралядзець па-над чарапічнымі дахамі Любляны;
пазалаціць слоік з мёдам на вужгарадскім рынку;
пад шум хваляў выказаць пашану руінам
Херсанэса;
ускараскацца стрымгалоў па вінаграднай лазе ў
Сумгаіце;
засведчыць неверагодны блакіт Чарвакскага
вадасховішча;
ператварыць у дыяменты пырскі са



страсбургскага фантана;
патанчыць на ўскрайку кілішка ў папулярнай
лейпцыгскай абсэнтэрыі;
запаліць кропельку балтыйскай смалы на адной
са светлагорскіх соснаў;
прывабіць позірк соннай коткі пад квітнеючым
дрэвам у Петравацы;
палашчыць маленькі куст шыпшыны каля
Юравай гары ў Крэве;
расфарбаваць пяро крука на могілках вікінгаў у
Ольбаргу;
даследаваць закутак паміж белым і чорным
каменнем,
што суседнічаюць на гары ў ваколіцах Грымстада;
пагойсаць паміж смарагдавых узгоркаў у
Кярнавэ;
зазірнуць у акенца калібы ў Старым Смакаўцы;
павітаць карагод начных агеньчыкаў Серсале
і схавацца пад Зялёным мостам у Кракаве.

Не трэба бегчы да Масквы або Парыжа,
ці вартаваць адчай на могілках сталіцы.
Не кідайце ў зямлю, не стаўце крыжа,
няхай душа ў прасторы растварыцца...

## Цянёты цыклону

На цёмным цвінтары,
Зацыраваным цвіллю,
Мацнеюць кіпцюры
Тубыльцаў у цывільным.

Духоўнасці сцябло
Цкуе сцюдзёны вецер;
Цярэбіцца цалок
Нясцерпна ад суквецця.

Цар цуглі адпусціў,
Гучыць працяглы цокат.
І цьмее супраціў,
Як пацалунак цмока.

# ПЕРАКЛАДЫ

*Аляксандр Пушкін*

## Птушка

Зноў на чужыне назіраю
Я родны звычай даўніны:
На волю птушку выпускаю
Святочным светлым днём вясны.

Я стаў даступным суцяшэнню;
За што на бога наракаць,
Калі хоць гэтаму стварэнню
Я шчасце меў свабоду даць!

*Фёдар Цютчаў*

* * *

Высокае ў разлукі ёсць значэнне:
Як ні кахай, хоць дзень адзін, хоць век,
Каханне — сон, а сон — адно імгненне,
І рана ці мо позна — абуджэнне,
Урэшце ўсё ж прачнецца чалавек...



*Ганна Ахматава*

## Шэравокі кароль

Слава табе, о нясцерпны мой боль!
Раптам сканаў шэравокі кароль.

Восеньскі вечар палаць пачынаў,
Муж мой, вярнуўшыся, роўна сказаў:

«Што ж, з палявання прынеслі яго,
Цела ля дуба знайшлі аднаго.

А каралева (такі ж малады!)
Стала сівою ад гэткай бяды».

Люльку сваю на каміне знайшоў,
Моўчкі на працу начную пайшоў.

Зараз дачку я сваю абуджу,
Ў шэрыя вочкі яе пагляджу.

Толькі таполі спяваюць здаля:
«Болей няма ўжо твайго караля...»

*Мікалай Гумілёў*

## Тры жонкі мандарына

Законная жонка

Ёсць яшчэ віно ў глыбокім кубку,
На талерцы ластаўчыны гнёзды.
Ад пачатку свету паважае
Мандарын законную супругу.

Наложніца

Ёсць яшчэ віно ў глыбокім кубку,
На талерцы гусь вялікі, тлусты.
Калі мандарын дзяцей не мае,
Ён наложніцу сабе заводзіць.

Служка

Ёсць яшчэ віно ў глыбокім кубку,
На талерцы рознае варэнне.
Для чаго абедзве мандарыну,
Кожны вечар новую ён хоча.

Мандарын

Больш няма віна ў глыбокім кубку,
На талерцы толькі вострі перац.
Ціха, замаўчыце, балбатухі.
Са старога нельга смяяцца.



*Эдуардас Межалайціс*

## Начны звер

Ноч — аспідная кошка. Апантана фары
Яе глядзелак гасяць цьмяную свячу,
Згасае месяц, потым зоркі... Ад пачвары
Старым лунатыкам па небе я лячу...

Ноч — аспідная кошка. Мякка скочыць з Марса
І злосна мяўкне гэты дапатопны звер,
Заўжды галодны, прагны да крыві і мяса,
Праходзіць праз сцяну, як і раней, цяпер...

Ноч — аспідная кошка. Зладзіўшы дакладна
Вусатае рэле, лакатары вушэй,
Яна ляціць на ціхіх лапах непраглядна
І ловіць нас, ачалавечаных мышэй.

Ноч — аспідная котка. І пад кіпцюрамі
Я, выгінаючыся, моўчкі боль цярплю,
Крывёй акропленымі, даўкімі радкамі
Бязлітаснага звера досыта кармлю.

*Ян Твардоўскі*

## Ода роспачы

Бедная роспач
пачвары з сумленнем
табе назаляюць страшэнна
маралісты ставяць падножку
аскеты кпяць
дактары выпісваюць лекі каб ты знікла
называюць цябе грахом
а між тым без цябе
я б усміхаўся ўвесь час як у дождж парасё
ці паўстаў незнарок у захапленні цялячым
нялюдскім
жудасным быццам мастацтва без чалавека
недарослы перад смерцю
самотнік



## Прыйшла

Зноў да мяне прыйшла самота,
хоць меркаваў што сцішылася ў небе.
Пытаюся:
— Чаго яшчэ ты хочаш, ідыётка?
Яна адказвае:
— А я цябе кахаю.

*Чэслаў Мілаш*

## Песня аб скканчэнні свету

Днём, калі мусіць адбыцца свету скканчэнне,
Пчолка кружляе над кветкай настурцыі дбайна,
Моўчкі рыбак рамантуе свой нерат зіхоткі,
Недзе над морам дэльфіны наладзілі скокі,
А верабейкі чапляюцца за вадасцёкі,
Золатам скуры вужака блішчыць, як звычайна.

Днём, калі мусіць адбыцца свету скканчэнне,
Пад парасонамі рушаць жанчыны праз поле,
І засынае п'янюжка на траўцы міжволі.
Гучна гандляркі гародніну браць заклікаюць,
Човен пад ветразем жоўтым ля выспы лунае,
Скрыпак трымценне ў паветры працягла трывае,
Зорную ноч гукам тым адмыкае.

Не дакачаўся натоўп перуноў і маланак —
Ён расчараваны;
Прагнучы знакаў і трубаў анёльскіх,
Не верыць, што ўжо пачалося.
Покуль і сонца, і месяц з нябёсаў нам свецяць,
Покуль наведвае чмель палкай ружы суквецце
І нараджаюцца зноў у бацькоў іх ружовыя дзеці,
Не ўсведамляе ніхто, што ідзе ўжо скканчэнне.

Толькі ссівелы стары, які мог быць пракрокам,
Ды не прарок, бо той факт не засведчылі людзі,
Ціха гамоніць, падвязваючы памідоры:



Іншага свету скканчэння не будзе,
Іншага свету скканчэння не будзе...

# Тое

Каб я нарэшце мог распавесці, што сядзіць
унутры мяне.
Выкрыкнуць: людзі, падманваў вас,
Сцвярджаючы, што гэтага ўва мне няма,
Калі ТОЕ ўсё яшчэ там, днём і ноччу.
Хоць, уласна кажучы, дзякуючы гэтаму
Быў я здольны апісваць вашы лёгкаўзгаральныя
гарады,
Вашы кароткія любошчы і забавы,
што распадаюцца ў парахню,
Завушніцы, люстэркі, коўзкі плечавы рамень,
Сцэны ў спальнях і на палях бітваў.

Пісанне было для мяне ахоўнай стратэгіяй
Замятання слядоў. Бо не можа падабацца людзям
Той, хто сягае па забароненае.

Паклічу на дапамогу рэкі, дзе я плаваў, азёры
З мастком паміж чаротам, даліну,
Рэха песні якой адгукаецца ў вечаровым святле,
І прызнаюся, што мае экстатычныя ўхваленні
існавання
Маглі быць толькі практыкаваннямі высокага
стылю,
А пад покрывам было ТОЕ, што не ў стане
вымавіць.

Яно падобнае да думкі бяздомнага, калі ідзе ён
па марозным, чужым горадзе.
І нагадвае момант, калі акружаны яўрэй



Бачыць цяжкія шлемы нямецкіх вайскоўцаў,
што набліжаюцца да яго.

Гэта нібыта калі каралеўскі сын выбіраецца
ў горад
І бачыць сапраўдны свет: галечу, хваробы,
старэнне і смерць.

ТОЕ таксама можа быць параўнана
З нерухомым тварам кагосьці, хто зразумеў,
Што застаўся пакінутым назаўжды.

Альбо са словамі лекара пра незваротны прысуд.

Бо ТОЕ азначае сутыкненне з каменным мурам
І разуменне, што гэты мур не саступіць
Аніводным нашым упрошванням.

## Над ручаінай

Шум празрыстай вады на каменні
ў яры пасяродку высокага лесу.
Залітая сонцам, зіхаціць на беразе папараць,
Нагрувашчваецца неабмежаваная форма
лісцяў —
ланцэтных, мечападобных,
у выглядзе сэрца альбо рыдлёўкі,
языкаватых, пёрыстых,
зубчастых, вышчарбленых,
пілкавых — хто здолее выказаць.
І кветкі! Бялёсыя парасоны,
блакітныя чашачкі, ярка-жоўтыя зоркі,
ружачкі, гронкі.
Сядзець і глядзець
на кружлянне чмялёў, лятанне стракоз,
узлёты казурак,
на мітусню чорнага жука ў блытаніне сцёблаў.
Здаецца, што я чую голас дэміурга:
«Альбо маўчанне парод у першы дзень тварэння,
альбо жыццё, умовай якога з’яўляецца смерць,
і гэтая прыгажосць, што зачароўвае цябе».



## Рэцэптура

Толькі не прызнанні. Уласнае жыццё
Так мяне дапякло, што знайшоў бы палёгку,
Распавядаючы аб гэтым. І зразумелі б мяне
Нешчасліўцы — а колькі іх! — якія на вуліцах
гарадоў
Гойдаюцца напаўпрытомныя альбо п’яныя,
Хворыя на праказу памяці і віну існавання.
Дык што ж трымае мяне? Сорам,
Што мае клопаты недастаткова маляўнічыя?
Ці наадварот? Занадта модныя енкі,
Нешчаслівае дзяцінства, траўма і так далей.
Нават калі б я саспеў да скаргі Іова,
Лепш замаўчаць, ухваляць нязменны
Парадак рэчаў. Не, гэта штосьці іншае
Не дазваляе мне гаварыць.
Хто пакутуе, павінен быць праўдзівым.
Дзе ж там, столькі маскіроўкі, столькі камедый,
жалю да сябе!
Фальш пачуццяў разгадваецца пасля фальшу
фразы.

Я занадта шаную стыль, каб рызыкаваць.

## Са шкадаваннем

Як мага менш шкодзіць. Вось да чаго імкнуся.
Хоць тут і мала значыць наша воля.
Дастаткова злучыць два словы, як ужо бягуць,
Захопліваюць, нясуць на племянны абрад.
Пішам для сябе, для некалькіх сяброў,
Каб зрабіць прыемнае нядзельнай маёўцы:
Так усё пачынаецца. А пазней штандары,
Гоман, прароцтва, абарона барыкад.
Мой вялікі заступнік зрабіў шмат благога.
Лепш бы застаўся пры сваіх баладах
Ды санетах. Ніхто не сказаў яму:
«Даволі, спыніся». Узялі яго сумленнем,
І праводзілі, трымаючы за рукі.
Ці мы нараджаемся для міфалогіі?
І ці сапраўды без уласнага жыцця?
Што за дэманізм у прыродзе мовы,
Паводле якога можна стаць толькі яе служкам!
І я шкодзіў, магчыма, менш за іншых.
Ва ўбраннях, масках, нераспазнавальны,
Неадназначны. І тое абароніць мяне
Перад мастацкім чытаннем на штогадовым
святкаванні.



## Паглыблены

Вось жа не кожнаму выдаецца сапраўдная
старасць.
Ёй уласціва аддавацца ўспамінам
Цялеснай пыхлівасці, якая распірала нас калісьці,
У нас, тых самых, а таксама іншых.
Быў высокі камізм
Ва ўкладанні валасоў перад люстэркам,
У клопатах аб тым, ці пасуе капялюш,
У наданні вільготнасці вуснам кончыкам языка
І перасоўванні па іх памады,
У завязванні гальштука з выглядам цара звяроў.

Як забаўляўся з нас Дух Зямлі!
Калі індывідуум з’яўляецца формай, а гатунак
матэрыяй,
Як здавалася меркаваць Дунсу Скоту,
Здзяйснялі мы тое, чаго жадаў гатунак,
паглыблены
Ў матэрыю гэтак, што хто-небудзь скажа:
па самыя вушы.

А пасля ўзнімаецца з міражу сінтэтычны горад.
Між гатычнымі вежамі палёты ластавак.
Стары ў акне, які бачыў шмат гарадоў,
Амаль вызвалены, смяецца
І нікуды вяртацца не збіраецца.

## Трывога-сон (1918)

Орша — кепская станцыя. Тут цягнік можа
стаяць нават суткі.
Дык, можа, гэта ў Оршы я згубіўся, шасцігадовы,
І цягнік рэпатрыянтаў рушыў, пакідаючы мяне

Назаўсёды. Нібыта я зразумеў, што буду кімсьці
іншым,
Паэтам іншай мовы, з іншым лёсам.
Нібыта ўявіў свой скон ля берагоў Калымы,
Дзе марское дно бялее ад людскіх чарапоў.
І вялікая трывога ў той момант наведала мяне,
Тая, што сталася маткай усіх маіх трывог.

*Трымценне малога перад вялікім.*
Перад Імперыяй,
Якая ідзе і ідзе на захад, узброеная лукамі,
арканамі, кулямётамі,
Пад'язджаючы возам, ляскаючы кучара па спіне,
Альбо джыпам, у папахах, з картатэкай
зваяваных краін.
І я проста ўцёк, ад сотні, трох сотняў гадоў,
Па лёдзе ды ўплаў, днём, ноччу, каб толькі далей,
Пакідаючы ля роднай ракі дзіравы шчыт і куфар
з каралеўскімі прывілеямі,
За Днепр, потым за Нёман, за Буг, за Віслу.

Пакуль не патрапіў да горада высокіх будынкаў
і доўгіх вуліц.
І трывога мяне турбуе, бо куды ж мне, вяскоўцу,
да іх.



Я проста раблю выгляд, што разумею, аб чым
так хутка трактуюць,
І стараюся схаваць перад імі свой сорам,
сваю страту.

Хто мяне тут накорміць, калі я плятуся
пахмурным ранкам
З дробнай манетай у кішэні, якой хопіць толькі
на адну каву, не болей?
Бежанец з прывідных краін, каму тут буду
патрэбны?

Сцены каменныя, сцены абыякавыя, сцены
халодныя.
Парадак не майго, але іхняга розуму.
Зараз змірыся ўжо, не паўставай.
Далей не ўцячэш.

## Аблокі

Аблокі, мае страшныя аблокі,
Як б’ецца сэрца, як зямля смуткуе,
А вы — такія белыя, маўклівыя — навокал,
Гляджу на вас — слёз вочы не шкадуюць.
Я ведаю — ўва мне сядзяць заганныя жаданні,
І жорсткасць знойдзецца, і каліва пагарды,
Што пішуць на шляху ў нябыт пасланне.
Маёй хлусні цудоўнейшыя фарбы
Схавалі праўду. Апускаю вочы
І адчуваю сухасць, палкасць ветру,
Што дзьме наскрозь. А вартавыя свету,
Аблокі — страшныя, дальбог! Хай лепш аднойчы
Заснуў бы я ў абдымках літасцівай ночы.



*Рафал Ваячак*

* * *

пішу Табе каханне
я ананімна
зверам бяссонным

пішу палахлівы
сам-насам з Табою
імя якой Быць
я мяса малітвы
а Ты яе птушка

з вуснаў сцякае
кропля алкаголю
у ёй усе сонцы і зоры
адзінае сонца ў тым часе

з вуснаў сцякае
кропля крыві
дзе ж Твой язык
каб суцішыў боль
з нагоды пракусу
слова кахаю

## Кажу табе ціха

Кажу табе так ціха як святар
Квітнеюць зоры ў поплаве крывавым
І кроў што зоркай паўстае ў вачах
Кажу так ціха аж мой цень бялее

Для твайго цела востраў ледзяны
сплыву раптоўна ў ноч гарачай кропляй
Кажу табе так ціха як праз сон
твой пот на маёй скуры палымнее

Кажу табе так ціха быццам птах
на досвітку прамень пускае ў вочы
Кажу табе так ціха бы сляза
маршчыны занатоўвае на твары

Кажу табе так ціха
як і ты мне



*Міран Бялашэўскі*

## Накіды

*

Стаяць на могілках, свечкі паляць,
плачуць, раптам Стэфка крычыць:
— Лю-уудзі, чаго бядуеце,
праз 50 гадоў ніводнага з вас тут
не будзе!

*

Смерць
так узвычайвае
разявае зяпу
нішчыць цела
і калі б ведалася што ляжыць
то бачылася б
не адразу
смерць смерць
столькі яе
што знікае жаданне
фанабэрыстасці паміранне

*Анджэй Стронк*

## Чацвёртае вымярэнне

магла б ты быць
са мной
камета
аднак жа падзяліў нас
час
што высыпаецца
з-пад павек
і прастора
нашых жаданняў
якая сціскаецца
вакол горла

магла б ты быць
са мною
зорка
але ж не затрымаўся
я на вышыні
задачы
не зрабіў
шырокага
жэсту
хоць
заўсёды
пераважаў цябе
на некалькі
даўжынь



магла б ты быць
маёй дачкой
планета
але ж
калі па праўдзе
дык за цябе я
маладзейшы
на мільён
светлавых гадоў

## Аб руху нябесных свяцілаў

Свяцілы
абарочваюцца
на арбітах

ягня
абарочваецца
на ражне

сонца
абарочвае нас
у прах



## Прах

Штоноч
ляжу
з табою побач
кручуся
у думках

трывожна
як на ражне

бо ты
перакручваеш
каханне
у жарт

## Д’ябал

калі б д’ябал
меў пяро
вечнае
пісаў бы
вершы
але ж
яго не мае
і піша
нам
смерць



## Раптам

тыднямі
выдумляю верш
аднак пасля
яго не запісваю

месяцамі
кахаю цябе
так моцна
але ты
нічога аб тым
не ведаеш

на працягу гадоў
жыву
але потым
раптоўна
паміраю

## Страх

мусіш
перамагчы
гэты страх
бо апроч
страху
нічога
няма



*Браніслаў Май*

* * *

Вечар поле пустое што пахне зямлёю
раса асядае на маіх ботах
брэшуць сабакі на вёсцы задоўга да ранку
і няма нікога хто б звярнуўся да мяне
ніхто не лічыць маіх крокаў не чакае
мая адсутнасць не існуе
ні для кога
пад небам пустым і сцямнелым
такая свабода

* * *

Ведаю ўжо што ўсё распадзецца
вось толькі нудны раздражнёны прывід
хаатычныя вандроўкі столькі вуліц столькі
тавараў
млее груваcткая стомленасць
бяссэнснасць усёй гэтай валтузні
і тое
што нельга крычаць



* * *

Ніколі не напішу доўгую паэму, бо ўсё,
што тут спазнаў, не дазваляе мне
падманваць: трывае паміж
двума глыткамі паветра, у адным
позірку, спазме сэрца. Існую
толькі зараз і толькі ў тым, што ёсць тут са мной,
дастатковага хіба што на некалькі
радкоў, на верш, такі кароткі, як жыццё
матылька, водбліску святла на хвалі,
боскага служкі. Некалькі радкоў
і тое, што паміж імі: няспынны
водбліск святла, вечнае жыццё матылька,
чалавек, які перакрочвае
смерць.

## Сон, снег

Сон, снег: мяккія і цёплыя, кружляюць
чорныя шматкі попелу, паволі спадаюць
у цішыні. Пакрываюць, клапатліва і
далікатна, зямлю,
хаты і дрэвы, — спіце. Спіце спакойна,
у бяспецы: мястэчкі, хаты, гароды,
вочы, вусны. Бяспечна: нічога
благога не можа ўжо быць, усё
ўжо адбылося.



* * *

Вось і ўсё. Нічога
ўжо болей, нічога
не адбудзецца.
Чаго чакаеш?

# Змест







**Пераклады**

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 24

**Хадарэнка** Ірына

**СВЯДОМАГРАФІЯ**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 20.03.2012. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 2,59.
Ул.-выд. арк. 0,89. Наклад 300 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.